

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№131 (644) 6 ліпеня 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501040 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.


## ФАКС



### Память военных лет

**Праздник, посвященный Дню освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков, прошел 3 июля.**

Церемония празднования началась с возложения венков к обелиску Победы в Минске. В ней приняли участие Председатель Верховного Совета Станислав Шушкевич, руководитель правительства Вячеслав Кебич.

После этого к площади Победы подошла колонна людей под красными флагами.

Завершился праздник поздно вечером народными гуляньями на проспекте Машерова и праздничным фейерверком.

**Александр ЛИМАНОВСКИЙ, Фото Сергея ГРИЦА.**

### Вкратце

**Объединенная демократическая партия Беларуси и Белорусская крестьянская партия выступили с совместным заявлением ко всем гражданам Беларуси, партиям, общественным организациям с предложением о создании широкого демократического движения в поддержку Председателя Верховного Совета Республики Беларусь Станислава Шушкевича.**

По мнению авторов заявления, среди принципов, на которых должно основываться демократическое движение в поддержку спикера, — досрочные выборы парламента и органов местной власти, неприсоединение Беларуси к военным блокам, широкая приватизация в интересах народа.

❑

**Франция приняла решение продлить мораторий на ядерные испытания.**

Она высказывается также за бессрочное продление в 1995 году договора о нераспространении ядерного оружия.

❑

**Президент США Билл Клинтон отправился вчера в Токио, где 7—9 июля состоится совещание руководителей семи ведущих промышленно развитых стран мира.**

Будут обсуждаться вопросы мировой политики и в первую очередь оказание экономической помощи России.

❑

**Две базы и несколько мелких объектов сил ООН в Боснии и Герцеговине блокировали мусульманские и хорватские формирования.**

Военнослужащим ООН перекрыт вход и выход с территории их казарм, кое-где на въезде установлены мины. Причиной блокады стала вражда между обеими общинами, которая перекинулась и на контингенты "голубых касок".

❑

**Руководство Верховного Совета Российской Федерации намерено выразить вотум недоверия правительству России на ближайшей сессии парламента, а на ближайшем съезде народных депутатов предложить ему уйти в отставку.**

Об этом заявил на встрече с новосибирскими депутатами председатель Совета республики Верховного Совета Российской Федерации Вениамин Соколов.

### Абхазия: бои с понедельника пораньше

**Вчера на фронтах Абхазии возобновились бои.**

Особенно ожесточенный характер они носили на флангах линии фронта, пролегающей по реке Гумиста близ Сухуми.

В Очамчирском районе, по данным из Гудауты, абхазские подразделения продолжают удерживать стратегически важный участок дороги Очамчира—Сухуми.

### Спорт-экспресс

Лишь одно очко решило исход европейского чемпионата по баскетболу среди мужских команд, завершившегося в Мюнхене. Сборная России уступила со счетом 70:71 (35:38) команде хозяев. Немецкие баскетболисты впервые в истории завоевали такой высокий титул.

❑

Сборная Аргентины по футболу сохранила звание чемпиона Южной Америки, выиграв финальный матч розыгрыша Кубка Америки в Гваякиле у мексиканцев — 2:1 (0:0).

❑

Результаты 27-го тиража "Спортлото" (4 июля):
6 из 45: 20, 22, 31, 15, 18, 8.
5 из 36: 14, 21, 27, 8, 35.
6 из 56: 53, 44, 22, 2, 18, 41, 12 (льготный)
Призы "Плюс миллион" выиграли билеты:
серии 004 номер 693404 из Новосибирска
серии 011 номер 129555 из Санкт-Петербурга.

### Желание в купальскую ночь сбудется?

**Журналисты радиостанции "Белорусская молодежная" загадали одно великое желание и в купальскую ночь отправляются на поиски "папараць-кветкі".**

О том, что это за желание и будет ли найден таинственный цветок, радиослушатели узнают из шестичасового прямого эфира "Купальская ночь", который начнется 6 июля в семь вечера. В нем примут участие Станислав Шушкевич, Рыгор Барадулин, актеры, бизнесмены, историки.

Итак, что же они будут искать?

**Константин УЛЬЯНОВ.**

### На Беларуси появился столбняк

**За первую половину нынешнего года зафиксировано уже 4 случая этого тяжелого заболевания, один из них — с летальным исходом.**

Кстати, раньше были годы, когда столбняк вообще отсутствовал в медицинской статистике Беларуси.

Болеют сейчас, в основном, взрослые, которые в свое время не привились от столбняка.

**Борис ШАВАРСКИЙ.**

### В объективе забастовка?

**На заводе "Зенит" прошла стихийная забастовка, которая продолжалась около трех часов.**

Она произошла из-за решения директора Василия Омельянчука изменить систему премирования работников завода, в случае введения которой рабочие теряли от 20 до 40 процентов заработной платы.

**РИД.**

### Паломничество к светской власти

**Мнение о том, что в Бога веруют в основном пожилые люди, опровергла делегация католиков из поселка Воропаево Поставского района, совершившая паломничество в Витебск.**

Среди пикетчиков, которые выстроились у входа в облисполком перед началом сессии народных депутатов, было много молодежи. Надписи на плакатах требовали закрепить за религиозной общиной место для костела, выделенное два года назад поселковым Советом, но отнятое решением районного Совета.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Смотрите, больше так не делайте!

**31 нарушителя сразу задержали гродненские пограничники.**

Незванные гости прибыли в Беларусь из Индии, Пакистана и Турции. Им удалось нелегально устроиться в одной из гостиниц города, найти проводников и автобус "Икарус". При попытке незаконно пересечь белорусско-польскую границу их и задержали...

Проводится разбирательство. Впрочем, итог его известен заранее: нарушителям всего лишь погрозят пальцем...

**Владимир НЕСТЕРОВИЧ.**



❑Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.



*На актуальную тэму з журналістам "Народнай газеты" гутарыць член Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, прафесар Барыс Савіцкі*

# "Зялёныя лёгкія" Беларусі,

## або Як нам захаваць экалагічную раўнавагу

**Экалагічная карта Беларусі даволі стракатая, нават супярэчлівая. Кангламерат буйных гарадоў, нашпігаваных "хіміяй", знявечанае Палессе, горы небяспечных адходаў вытворчасці, а побач — куткі спрадвечнай прыроды, якіх не знойдзеш на кантыненце. У якім становішчы мы зараз знаходзімся? Што нас чакае ў будучым? Аб гэтым гутарка аглядальніка "Народнай газеты" Віктара Чарнушэнкі са старшынёй Камісіі па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прафесарам Б.П.САВІЦКІМ.**

**— Барыс Парфёнавіч, давайце пачнём нашу гутарку, як кажуць, з гарачага факта. Вы толькі што сустракаліся з саветнікам польскага прэзідэнта па пытаннях экалогіі Станіславам Казлоўскім. Аб чым ішла размова?**

— Упершыню нашы краіны папярэдне дамовіліся аб цесным супрацоўніцтве ў галіне заканадаўства, а таксама паглыбленай навукова-даследчай дзейнасці. Будзе створана сумесная беларуска-польская парламенцкая камісіі, якая ўшчыльную зоймецца распрацоўкай падобных нарматыўных актаў, звязаных з аховай навакольнага асяроддзя, прыродакарыстаннем.

Нашы дзяржавы-суседзі, адзначу, даўно і цесна займаюцца вырашэннем агульных праблем. У прыватнасці, мы разглядалі пытанні па Белавежскай пушчы, Заходняму Бугу і Вісле, іншых аб'ектах... Еўропа "дорыць" нашай рэспубліцы, як, дарэчы, і Польшчы, вялікі "букет": ружа вятроў скіравана так, што 60 працэнтаў усіх шкодных ападкаў (кіслотныя дажджы і г.д.) трапляюць у Беларусь менавіта адтуль. Праблема? Яшчэ якая! Яе паасобку не вырашыць, высокай сцяной не адмежавацца.

**— Наколькі адпавядае рэчаіснасці сцвярджэнне, што наша рэспубліка быццам бы ўжо на мяжы экалагічнай катастрофы?..**

— Гэта далёка не так. Трэба цвяроза і аб'ектыўна ацэньваць сітуацыю. Становішча навакольнага асяроддзя сапраўды складанае, але не такое безнадзейнае, як сцвярджаюць тыя, хто не валодае праблемай, крыкуны ад палітыкі. Я не буду кранаць Чарнобыль — гэта асобная тэма. Пра яе скажу пасля.

Дык вось, коратка аб тым, якую мы маем сітуацыю. Тут не абысціся без параўнанняў. З аднаго боку, ёсць шмат небяспечных раёнаў, дзесяцігоддзямі невырашальных праблем. Гэта тычыцца, у прыватнасці, становішча ў Наваполацку, Салігорску, Магілёве, у басейне Дняпра, выкарыстання таксічных адходаў і г.д. Але загляніце ў комплексную рэспубліканскую праграму аховы навакольнага асяроддзя, хаця зараз і не модна спасылацца на падобныя дакументы. Пакрысе, аднак, выпраўляюцца памылкі. Напрыклад, удалося прыпыніць працэс павелічэння забруджанасці паветра многімі шкоднымі рэчывамі ў буйных прамысловых цэнтрах. Ствараюцца новыя запаведнікі, такія, як Свіслацка-Бярэзінскі, Браслаўскі нацыянальны парк... Сапраўды, становішча воднага басейна выклікае трывогу. Разам з тым мяркуйце самі: прыток вады ў рэспубліку складае 36 працэнтаў, адток — удвая больш. І мы больш ачышчаем транзітныя воды, чым забруджваем. Трэба думаць пра капіляры — малыя рачулкі і вадаёмы. Уратуемся, калі будзем і надалей павялічваць лясныя рэсурсы. Беларусь абганяе ў гэтай справе многія еўрапейскія краіны, хаця, сапраўды, не трэба цешыць сябе...

**— Мы зноў кранаем замежжа... Уступленне Беларусі ў міжнародную супольнасць азначае прыняцце "правілаў яе гульні", падпісанне важнейшых пагадненняў па праблемах аховы прыроды. Наша рэспубліка не выступае маўклівым статыстам?**

— Безумоўна. Як вядома, беларускі парламент ратыфікаваў новае міжнароднае пагадненне — вынік работы Сусветнай канферэнцыі ААН па навакольнаму асяроддзю і развіццю — канвенцыю "Біялагічная разнастайнасць". Генетычныя рэсурсы лічацца ўласнасцю толькі той краіны, адкуль яны паходзяць, якая сёння валодае гэтымі рэсурсамі. Таму дакумент падпісалі ў першую чаргу тыя дзяржавы, якія не хочуць падвяргацца генетычнаму грабяжу, зацікаўлены ў фінансавых ін'екцыях з боку супольнасці. Вялікае значэнне маюць усе аб'екты, нават з параўнаўча небагатай разнастайнасцю жывых арганізмаў, такія, напрыклад, як беларускія крыніцы з відамі-рэліктамі ледавіковага перыяду. Карацей кажучы, інтарэсы ўсіх краін цесна пераплятаюцца. Нельга штосьці адарваць, выдзеліць з прыроднага асяроддзя — парушыцца экалагічны баланс.

Зараз з удзелам многіх дзяржаў рыхтуецца праект "зялёныя лёгкія" Еўропы. Неабходна як мага хутчэй стварыць гэты кардон, каб стрымаць трансгранічныя пераносы.

**— Ва ўсіх адносінах не абысціся без надзейнай заканадаўчай базы. Тут яшчэ непачаты край работы...**

— Не зусім так: пачатак ёсць. Дзейнічае асноўны Закон "Аб ахове навакольнага асяроддзя", на базе якога рыхтуюцца астатнія. Усяго, трэба адзначыць, наша камісія падрыхтавала 16 праектаў законаў. Прыняты пакуль што толькі два, ды яшчэ адзін — у першым чытанні. Прычына затрымкі — вельмі цяжка прабіцца на сесію... Памятаеце, як амаль што боем удалося ўключыць у парадак дня бягучай сесіі праект Закона "Аб адходах вытворчасці і спажывання". А гэта ж балючая праблема ўсяго грамадства! Зрываюцца планы будаўніцтва комплексаў па перапрацоўцы таксічных адходаў, і не толькі гэта.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*Пра што гаварылася на прэс-канферэнцыі?*

### Фракцыя "Беларусь" асуджае акцыю ЗША

**Дэпутацкае аб'яднанне "Беларусь" выступіла з афіцыйнай заявай, у якой асудзіла нанесены Злучанымі Штатамі ракетны ўдар па Багдаду.**

Аб гэтым паведаміў на праведзенай канферэнцыі кіраўнік аб'яднання Генадзь Казлоў. Разам з ім у гутарцы з журналістамі ўдзельнічалі народныя дэпутаты Мікалай Скарынін і Валерый Паўлаў. Было адзначана, што спроба ЗША прымяніць сілу, ігнаруючы палітычныя метады рэгулявання, не адпавядае прынцыпам міжнароднага права.

Больш за 100 парламентарыяў, якія паставілі подпіс пад гэтым дакументам, лічаць, што напярэдадні візіту беларускай дэлегацыі на вышэйшым узроўні ў ЗША кіраўніком і Прэзідыумам беларускага парламента павінна быць выпрацавана пазіцыя па гэтаму пытанню. "Мы не супраць візіту, але ён павінен быць добра падрыхтаваны", — сказаў Генадзь Казлоў. Ён таксама паведаміў аб выніках сумеснага пасяджэння камісій па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях, па нацыянальнай палітыцы і пытаннях Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якім Станіслаў Шушкевіч раніцай 1 ліпеня даручыў падрыхтаваць гэтае пытанне для далейшага абмеркавання ў Вярхоўным Савеце. Члены камісій, паводле слоў Генадзя Казлова, аднагалосна асудзілі гэту акцыю.

Журналістаў, зразумела, цікавіла рэакцыя кіраўніцтва парламенцкай большасці на праведзенае напярэдадні тайнае галасаванне парламентарыяў. На гэта Генадзь Казлоў адказаў, што дэпутацкае аб'яднанне "Беларусь" не прымала рашэння аб адстаўцы Старшыні Вярхоўнага Савета. У той жа час ён лічыць, што пытанне гэта канчаткова не вырашана. Многае будзе залежаць ад таго, як пройдзе абмеркаванне пункта парадку дня аб рэферэндуме. Калі Вярхоўны Савет прыме станоўчае рашэнне, то аб'яднанне "Беларусь" мае намер унесці ў парадак рэферэндуму 5 дадатковых пытанняў: "ад Віскулёў да мовы".

**Белінфарм.**

*ПАРЛАМЕНЦКІЯ БАТАЛІІ:*

# ШТО ДУМАЕ НАРОД

**Спроба адхіліць ад пасады Старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча, чаго на працягу трох дзён так дамагалася большасць парламента, не ўдалася. Бюлетэні ўзялі ўсяго 204 дэпутаты, хоць агульная колькасць іх у Вярхоўным Савеце — 346. Непасрэдны ўдзел у галасаванні прыняў 201 дэпутат (трое не апусцілі бюлетэні ў урну). Пры гэтым 8 бюлетэняў прызнаны несапраўднымі. У выніку толькі 166 дэпутатаў выказалі недавер Старшыні, у той час, калі для гэтага патрабавалася 174 галасы. Члены апазіцыі БНФ і Дэмакратычнага клуба наогул адмовіліся браць бюлетэні, выказаўшы такім чынам пратэст супраць арганізаванай акцыі.**

**У той час, калі майстры кадравых інтрыг цешыліся загадзя запланаванымі вынікамі і, дэманструючы ўласныя палітычныя амбіцыі, абвінавачвалі спікера ва ўсіх нашых сённяшніх бедах, у прыёмнай Вярхоўнага Савета, сакратарыяце сесіі не змаўкалі тэлефоны, з усіх куткоў рэспублікі ляцелі на гэтыя адрасы трывожныя тэлеграмы. Змест іх амаль адзін і той жа: што адбываецца сёння ў нашым парламенце? Патрабуем спыніць шалёную атаку на Старшыню Вярхоўнага Савета. Станіслаў Станіслававіч, трымайцеся, усе сумленныя людзі з Вамі!**

**Гэтыя званкі, гэтыя лісты і тэлеграмы, бадай, яшчэ раз яскрава пацвярджаюць, што тыя народныя абраннікі, якія так любяць спасылацца і хавацца за спіны народа, далёка не заўсёды аб'ектыўна адлюстроўваюць яго настрой. Народ усё бачыць, усё разумее і выдатна ведае, хто ёсць хто.**

## Атака на Шушкевіча толькі ўзмацніла сімпатыі да яго

### Пра гэта сведчаць шматлікія лісты і тэлеграмы, якія прыйшлі гэтымі днямі на імя лідэра нашай дзяржавы

*Срочная, Шушкевичу Станиславу Станиславовичу*

Уважаемый Станислав Станиславович, в трудный час выражаем полное доверие, поддержку.

**Семья ветерана Отечественной войны Керножицкого, Волковыск.**

❑

*Дом правительства, Шушкевичу Станиславу Станиславовичу*

Примите нашу моральную поддержку. Спасибо Вам.

**Поселок Беловежский Брестской, Каменецкого. Овинович Любовь Александровна, Хмара Анатолий Григорьевич.**

❑

Дорогой Станислав Станиславович, не поддавайтесь на провокации партократов. Избиратели, народ с Вами.

**Семьи Макаревич, Дербан, Шевцовы, Мудрогеловы и другие избиратели. Минск.**

❑

*Мінск, Вярхоўны Савет, Сакратарыяту*

Рашуча пратэстуем супраць спроб пракамуністычнай большасці расправіцца са Станіславам Шушкевічам, падтрымліваем пазіцыю Старшыні.

**Сідор, Койданава.**

❑

*Срочная, Председателю Верховного Совета*

Уважаемый Станислав Станиславович, как избиратель требую зачитать завтра утром телеграмму: "Верховный Совет в отставку". Вместо того, чтобы делать дело, занимаются кто во что горазд.

**Титовец, Минск.**

❑

*Сессии Верховного Совета*

Депутаты, не будьте иудами и не считайте весь народ дураками, если отстраните Шушкевича, последует югославский вариант. Пожалейте хоть своих детей, если не жалеете наших.

**Избиратель Ильенков, Витебск.**

❑

*С.Шушкевічу*

Да глыбіні душы абураныя правакацыйнай антынароднай дзейнасцю камуністычнай большасці ў Вярхоўным Савеце. Выказваем Вам, Станіслаў Станіслававіч, сваю самую гарачую падтрымку. Вы былі і застаяцеся гонарам і сумленнем беларускай нацыі.

**Сям'я Бабіч, Глыбокае Віцебскай вобласці.**

❑

Уважаемый Станислав Станиславович!

Уважаемые здравомыслящие депутаты ВС Республики Беларусь!

Мы возмущены той номенклатурной политической игрой, которая ведется частью депутатов в угоду собственным корпоративным интересам. И если среди них большинство таких, как Трусов Иван Иванович, который является одним из застрельщиков этого постыдного, направленного на развал республики и узурпацию власти игрища, то пусть при голосовании каждый депутат знает, что слова Трусова о том, что он советовался и его уполномочил трудовой коллектив, это чистейший блеф, щит, коим он прикрывает узкокорпоративные цели. После его выступления мы говорили с рабочими завода, где он является директором, и рабочие высказали прямо противоположное мнение.

Все затеянное "трусовыми" — не что иное, как попытка оставить за собой ускользающее право бесконтрольно распоряжаться собственностью и судьбами людей. Не зря они боятся вашего доклада, так как в нем, по идее, должны прозвучать делишки, что натворили и продолжают творить отдельные радетели за судьбу народа.

Мы просим Вас и даже требуем, не взирая на результаты голосования, воспользоваться Вашим правом председательствующего и назвать народу республики фамилии тех радетелей, которые пытаются устроить этот дворцовый переворот, а сами в это время неустанно обогащаются за народный счет, строя себе дворцы-коттеджи, дачи, прихватизируют за бесценок предприятия, государственное имущество, издеваются над людьми, упиваясь своей безнаказанностью.

И это Ваше выступление продиктовано не просто политической логикой, но и острейшей необходимостью четкого осознания народом республики причин, по которым предпринята попытка дискредитировать Вас как политика и руководителя да и как личность. Этот момент, решающий даже не столько для Вас, сколько для дальнейшей судьбы нашего государства.

**С поддержкой народные депутаты Борисовского горсовета: Гаврусев, Щербинин, Харьков, Ещенко, Смагин, Пищалов, Шерстнев, Корочкин, Каленик, Кудейко.**

❑

*Срочная, Шушкевичу Станиславу Станиславовичу*

Ваша власть — Ваше терпение.

**Корма.**

❑

Уважаемый Станислав Станиславович, Вы на правильном пути. Доброго здоровья, выдержки, мужества, так необходимых будущему президенту. Наше презрение агрессивному большинству, примкнувшим Гончару, Лукашенко. Уход Булахова, дай Бог, справдится, только на пользу Беларуси.

**От группы Ваших избирателей Хотина, Минск.**

❑

*Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь*

Выказваем недавер дэпутатам, якія шальмуюць Станіслава Шушкевіча, кіраўніка, прызнанага народам.

**Рада ТБМ Гомеля.**

❑

*Сессии Верховного Совета*

Убедительно просим поддержать Шушкевича. Будем сердечно благодарны.

**Инвалиды, Музей Героя Советского Союза Кабушкина, земляки, семьи погибших. Барановичи.**

❑

*Председателю Верховного Совета Шушкевичу С.С.*

Станислав Станиславович, держитесь, Вы на правильном пути. С Вами сотрудники географического факультета Белгосуниверситета Шалькевич, Качков, Башкинцева, Сидор, Куликов, Явид, Гагина, Борисенко, Иванов, Малашенков и др.

❑

*Спадару Шушкевічу С.С.*

Выкладчыкі, супрацоўнікі і студэнты факультэта Беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага універсітэта падтрымліваюць Вашу пазіцыю па пытанню далучэння Беларусі да сістэмы калектыўнай бяспекі. Мужайцеся, мы з Вамі.

**А.Пяткевіч, М.Мельнікаў, І.Лепешаў, П.Сцяцко, Д.Карапінскі, К.Лецка, С.Габрусевіч і іншыя, усяго 30 подпісаў.**

❑

*Верховный Совет, Секретариат*

Поддерживаем Шушкевича, выражаем недоверие большевистскому Верховному Совету.

**Левоцкая, Лысак, Подкас. Пинск.**

❑

*Вярхоўнаму Савету*

Абураны нязграбнымі, неабгрунтаванымі нападкамі несвядомых дэпутатаў на Старшыню Шушкевіча. Патрабуем спыніць пракамуністычныя здзекі з паважанага беларусамі Шушкевіча.

**Гомельская кансультатыўная рада "Адраджэнне", старшыня Ул. Старчанка.**

❑

Товарищи депутатское большинство, народ верит Шушкевичу больше, чем вам. Не создавайте напряжения, в итоге проиграете вы и, к сожалению, Беларусь.

Вадим Борщевский, Витебское товарищество БХДЗ.

**Падрыхтавала Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, кансультант Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

*Ад рэдакцыі "Народнай газеты"*

**Змясціўшы лісты, якія паступілі днямі на імя С.Шушкевіча, і ўступ да падборкі, мы маглі б паставіць кропку. Але тады ў чытачоў, безумоўна, узнікла б пытанне: а пра што сведчыць рэдакцыйная пошта, няўжо няма іншых поглядаў на канфлікт, які ўзнік на мінулым тыдні ў парламенце? Спадзяёмся, лісты многіх чытачоў яшчэ, як кажуць, у дарозе. Але некаторыя ўжо дайшлі, і мы не можам не прапанаваць іх у дадзеным выпадку. Спецыяльна падрыхтавалі да друку тыя з іх, якія не дубліруюць надрукаваныя вышэй, а ў якіх аўтары разглядаюць вострую схватку ў парламенце з іншых пунктаў гледжання. Мяркуем, што знаёмства з рознымі пазіцыямі дазволіць больш рэльефна акрэсліць сутнасць апошніх падзей у парламенце.**

## Нельга служыць і "нашым", і "вашым"

Можа, рэдакцыя і не надрукуе мае радкі, але скажу: добра, што парламенцкая большасць рэзка выступіла супраць Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Станіслававіча Шушкевіча. Ён гэтага заслужыў — сваёй празмернай "памяркоўнасцю", сваімі неакрэсленымі, а іншы раз проста беспрынцыповымі паводзінамі, патураннем тым, для каго вярнуць учарашні дзень — залатая мара. Шмат памылак на рахунку С.Шушкевіча, але галоўная з іх — нельга служыць і "нашым", і "вашым".

Сёння ён чужы для саўмінаўскага лобі, для фракцыі "Беларусь", не да канца яму верыць і апазіцыя.

Мне здаецца, у Шушкевіча застаўся апошні шанц, і, калі ён яго не выкарыстае, яго напаткае лёс М.С.Гарбачова. Ён павінен у бліжэйшыя дні выступіць з канкрэтнай праграмай рашучых палітычных і эканамічных змяненняў. Рэспубліцы патрэбен моцны лідэр, з цвёрдымі пазіцыямі.

**Казімір ЛЕКУНОВІЧ.**

г.Брэст.

## Гэта не канфлікт паміж Шушкевічам і парламентам, гэта канфлікт паміж тымі, хто жыве днём учарашнім, і тымі, хто жадае бачыць Беларусь незалежнай і дэмакратычнай

Апошнія дні для мяне выдаліся менш-больш вольнымі, і была магчымасць актыўна сачыць за тымі радыё- і тэлеперадачамі, якія вяліся з залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Я не спецыяліст у палітыцы, але, мяркую, усім зразумела, што адбыўся канфлікт не паміж Шушкевічам і парламентам, а паміж тымі, хто жыве днём учарашнім, і тымі, хто жадае бачыць Беларусь незалежнай і дэмакратычнай. Старшыня Вярхоўнага Савета настойліва выступае супраць падпісання калектыўнага дагавора па пытаннях бяспекі, 166 дэпутатаў — за такі дагавор. Вось у чым галоўнае сутыкненне! Няўжо апошнія не разумеюць, што ратыфікацыя такога дагавора — гэта аднаўленне Савецкага Саюза? А як жа тады з суверэннасцю рэспублікі? А як жа тады з яе нейтралітэтам, што мае ўжо сілу канстытуцыйнага закона? Не, не пераканаўчыя довады ў спадароў міністра замежных спраў П.Краўчанкі і міністра юстыцыі Л.Дашука. Калі іх паслухаеш, то выходзіць, што можна падпісаць дагавор і затым яго не выконваць. Прабачце, шаноўныя, але гэта не жартачкі, альбо мы падпісваем калектыўны дагавор, падтрымліваючы яго ўмовы, альбо не падпісваем — трэцяга не дадзена.

Я — за адраджэнне роднай Беларусі! Я — за суверэнную Беларусь! Я — за нейтральную Беларусь!

**Мікалай КАМЯНЕЦКІ, навуковы супрацоўнік.**

г.Мінск.

## Почему бьют Шушкевича, а не Кебича?

Слушала выступление на сессии Верховного Совета и думала: а почему бьют только одного Шушкевича? А не заварил ли всю эту кашу Кебич? В кабинетах Совета Министров, насколько помнится, родилось предложение заключить договор о коллективной безопасности. Правда, в последнее время члены правительства стараются, как мне кажется, об этом не вспоминать, упор делается на решение экономических проблем.

Не специально ли подброшен "военный шар" с тем, чтобы парламентское большинство "съело" С.С.Шушкевича, зная, что он до последнего будет сторонником нейтралитета Беларуси?

**Валентина КОРЖЕНЕВСКАЯ.**

г.Пинск.

## Трымайцеся дэмакратаў, Станіслаў Станіслававіч!

Мне, выбаршчыку, сорамна за тое, што адбываецца ў Вярхоўным Савеце. Замест таго, каб сабрацца і спакойна вырашаць неадкладныя праблемы, і ў першую чаргу эканамічныя, народныя дэпутаты розных фракцый распачалі бойку за ўладу. У мяне пытанне да тых, хто ўваходзіць у фракцыю "Беларусь": "Большасць з вас была пры ўладзе дзесяткі гадоў. Што змянілася, да чаго мы прыйшлі? Дык навошта мучыць людзей яшчэ дзесяткі гадоў?"

Я не разумею і Старшыню Вярхоўнага Савета Станіслава Станіслававіча Шушкевіча. Ужо больш як два гады Вы з'яўляецеся першай асобай дзяржавы. Скажыце, калі ласка, якія актыўныя захады Вы асабіста зрабілі для таго, каб рэформы ў Беларусі пайшлі больш сур'ёзна? Каго з міністраў, непасрэдных кіраўнікоў урада Вы прапанавалі парламенту замяніць? На пасаду Старшыні Савета Міністраў прапанавалі некалі В.Ф.Кебіча. Сёння ў Вас нямала разыходжанняў з яго пазіцыяй. Дык, можа, унесці прапанову наконт новага кіраўніка ўрада? Чаму так многа гаворыцца пра кааліцыйны ўрад і нічога ў гэтым накірунку не робіцца?

Словам, Станіслаў Станіслававіч, Вы самі ў многім давялі сітуацыю да той, якая склалася цяпер у Вярхоўным Савеце. Больш, больш прынцыповасці і рашучасці, толькі ў такім выпадку вашымі прыхільнікамі будуць дэмакраты. Дарэчы, апазіцыя і дэмклуб Вас абаранілі, але калі Вы не зменіце лінію, не зоймеце больш жорсткую пазіцыю ў адносінах да тых, хто цягне Беларусь у "камуністычны рай", каму хочацца бачыць нашу рэспубліку "северо-западным краем", то ад Вас адвернуцца як члены апазіцыі, так і дэпутаты, якія ўваходзяць у дэмклуб.

**Фёдар КУЛЬБІЦКІ.**

г.Мінск.

## Союз развалили не в Вискулях

Разыгрывая популистскую карту, некоторые депутаты обвиняют Шушкевича в развале Советского Союза. Но это же чистейшей воды цинизм. Любая империя рано или поздно терпит крах. Эта участь постигла и СССР. И попробуйте теперь загнать назад в Советский Союз ту же Эстонию, ту же Литву. Невозможно это сделать и с Украиной, Азербайджаном, Туркменией да и всеми другими бывшими республиками Советского Союза. Так стоит ли плакать по империи?

Это — раз, а во-вторых, почему, когда речь заходит о Вискулях, называется только фамилия Шушкевича? Разве там не было премьер-министра В.Ф.Кебича? Разве там не было министра иностранных дел П.К.Кравченко? Поэтому если и винить, то винить всех троих. Кстати, я заметил, когда выступают представители франкции "Беларусь", то стараются всеми силами выгородить Кебича. А ведь руководитель исполнительной власти не в меньшем ответе за положение дел в республике, чем Председатель Верховного Совета. Если и выражать недоверие, так сразу обоим — и Шушкевичу, и Кебичу. Одновременно, считаю, в отставку должен пойти и весь Верховный Совет...

**Игорь КОЗИНЕЦ.**

Гомельская область.

## Зразумела, Пазьняк гаварыў правільна

Калі раней Пазьняк крытыкаваў тую парламенцкую большасць, якую называюць камуністычнай, саўмінаўскай, я злавалася, лічыла, што ён памыляецца. Не даравала я яму і крытыкі ў адрас С.Шушкевіча, да ўраўнаважанасці якога я адносілася вельмі станоўча.

Але час паказаў: Пазьняк гаварыў правільна. Асабліва гэта пацвердзілася ў апошнія дні на сесіі Вярхоўнага Савета. Усім стала зразумела, хто ёсць хто. І мне імпануюць дзеянні З.Пазьняка, які разам з усёй апазіцыяй і многімі дэпутатамі-дэмклубаўцамі выступіў у абарону С.Шушкевіча, але баюся, што гэта ў апошні раз, калі, вядома, Старшыня Вярхоўнага Савета не зробіць адпаведных высноў.

**Марыя КІСЛЯКОВА, праграміст-матэматык.**

г.Мінск.

## Не змаўкаюць тэлефонныя званкі...

У гэтыя дні рэдакцыйныя тэлефоны не ведаюць спакою. Учора, напрыклад, толькі ў прыёмнай галоўнага рэдактара раздалося некалькі дзесяткаў званкоў. Шмат аб чым гаварылі людзі, але на адно мы хочам звярнуць увагу нашых чытачоў — на тое, як асвятлялі гарачыя спрэчкі ў беларускім парламенце маскоўскія выданні і астанкінскае тэлебачанне. І ў "Известиях", і ў "Комсомолке", і ў тэлеперадачы "Итоги" прагучала, быццам бы наш Вярхоўны Савет выказаў недавер С.С.Шушкевічу. Відавочная тэндэнцыйнасць! Навошта Маскве распальваць пажар на Беларусі? Мала Прыднястроўя? Вярхоўны Савет якраз выказаў давер С.С.Шушкевічу, таму што толькі 166 дэпутатаў хацелі яго "пракаціць". Пры гэтым нельга не ўлічваць тое, што галасаванне не мае юрыдычнай сілы — толькі 204 народныя дэпутаты ўзялі бюлетэні, з якіх сапраўдным аказаўся толькі 201 бюлетэнь. Галасаванне фактычна было забайкатавана. Многія дэпутаты адкрыта адмовіліся ўдзельнічаць у палітычным спектаклі.

Нельга белае выдаваць за чорнае, а чорнае, наадварот, за белае.



❑ Парламенцкая большасць настроена рашуча...



❑ У Старшыні парламента — свае аргументы.






❑ ... Апазіцыя галасаваць адмовілася.

Фота Сяргея ГРЫЦА.

# "Зялёныя лёгкія" Беларусі,

## або Як нам захаваць экалагічную раўнавагу

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— Барыс Парфёнавіч, хацелася б ведаць ваша меркаванне наконт развіцця энергетычнага комплексу рэспублікі. Пытанне не столькі эканамічнага, колькі экалагічнага характару.**

— Разумею, куды вы хіліце... Я асабіста супраць развіцця ядзернай энергетыкі на Беларусі. І не толькі таму, што мы паспыталі смак Чарнобыля. Дзе браць ядзернае паліва? У рэспубліцы яго няма. Значыць, зноў залежнасць ад суседа? Кампетэнтная камісія працуе над праграмай, і, спадзяюся, будзе прынята правільнае рашэнне. Ёсць жа іншыя магчымасці забяспечыць сябе палівам. Вазьміце меншую за Беларусь Аўстрыю. Там няма ніводнай атамнай станцыі.

А пакуль не знойдзены дадатковыя энергетычныя крыніцы, адначасова з іх пошукам трэба тэрмінова ўкараняць рэсурсазберагаючыя тэхналогіі. Па маіх падліках, эканомія можа скласці да 30 працэнтаў спажываемай зараз энергіі. Магчымасцей — хоць адбаўляй. Прычым ва ўсіх сферах жыццядзейнасці. Адзін толькі прыклад. Ноч, скрыжаванне дарог. Некалькі святлафораў адначасова міргаюць жоўтым "вокам" — сведчанне аб "эканоміі". Хапіла б і адной сігнальнай лямпы.

Трэба задумацца і вось аб чым. Звыш паловы рознай атруты ў атмасферу выкідвае транспарт. А колькасць яго пастаянна расце. У адным толькі Мінску налічваецца каля 200 тысяч розных аўтамабіляў, прычым большасць састарэлых. Мала свайго, дык цягнем з-за мяжы рознае барахло. І ніякіх абмежаванняў! Марнуем дарагое паліва, атручваем усё жывое. Неабходна проста забараніць выкарыстанне гэтых капцілак. Я ўжо не кажу пра тое, што канчаткова так і не вырашана праблема пераходу на неэтыліраваны бензін.

Мне бачыцца адзінае выйсце — жорсткія штрафныя санкцыі, кантроль за выкананнем законаў. Сілы і сродкі для гэтага ёсць, у тым ліку Адміністрацыйны і Крымінальны кодэксы.

**— А ці здольна старая сістэма дзяржаўнага кантролю абараніць прыроду?**

— Складанае пытанне... Наша камісія прапаноўвала два праекты. Першы — падпарадкаваць Дзяржкамэкалогіі Вярхоўнаму Савету, аб'яднаўшы пад адным дахам Мінлясгас, Белрыбвод і іншыя кантралюючыя ведамствы. Другі — павысіць статус дзяржкамітэта ў структуры Саўміна. Пакуль што жывём па-старому... Рана ці позна, але не абысціся без кардынальнага вырашэння гэтага пытання.

Бачу сэнс стварыць на базе адпрацаваўшых сваё структур экалагічную паліцыю (не трэба блытаць з экалагічнай міліцыяй — яна не прыжылася), якая б больш эфектыўна займалася абаронай навакольнага асяроддзя — вод, зямель, лясных угоддзяў. Разам з прыродаахоўнай пракуратурай, якая няблага дзейнічае ўжо ў трох абласцях рэспублікі і будзе стварацца ў астатніх, можна будзе ажыццяўляць больш надзейны кантроль.

**— Вы абяцалі выказацца наконт Чарнобыля... Чаму мы топчамся на месцы ў справе ліквідацыі вынікаў катастрофы?**

— Таму што дзейнічаем папулісцкімі метадамі. Раздача без разбору льгот прывяла да распылення сродкаў. Карысці ад гэтага мала. Наўрад ці ўдасца выправіць становішча, прыняўшы новую канцэпцыю бясшкоднага пражывання ў забруджанай зоне. З самага пачатку выбраны няправільны накірунак. Замест падачак кожнаму неабходна было сур'ёзна заняцца, напрыклад, будаўніцтвам лячэбна-дыягнастычных устаноў, аказваць медыцынскую дапамогу перш за ўсё тым, хто мае ў гэтым неадкладную патрэбу.

**— Барыс Парфёнавіч, вы чатыры гады з'яўляецеся прэзідэнтам Беларускага экалагічнага саюза. Як ацэньваеце яго дзейнасць, а таксама іншых грамадскіх арганізацый "зялёных"?**

— Мне няёмка даваць ацэнку работы саюза. У свой час ён аб'яднаў моцныя сілы, шмат чаго ўдалося зрабіць. Цяпер трэба больш арыентавацца на самастойнасць, ініцыятыву рэгіянальных аддзяленняў, ствараць невялікія і незалежныя арганізацыі накшталт такіх, якія, скажам, дзейнічаюць у швейцарскіх кантонах.

Усе "зялёныя" таксама маюць свае адценні. Адны толькі байкатуюць, гатовы пазачыняць заводы, класціся пад гусеніцы экскаватара... Гэта неразумна. Другія, іх, на жаль, менш, думаюць і дзейнічаюць канструктыўна, стваральна, не ігнаруюць навуку і таму прыносяць больш карысці. З апошнімі, калі яны аб'яднаюцца, згадзіўся б супрацоўнічаць.

